наша свабода
№1 • 25 ЛЮТАГА 2000г. • ПЯТНІЦА




# Нелегитимному парламенту – недемократические выборы

Иван БАБИЧЕВ

**Белорусские партии будут бойкотировать предстоящие осенние выборы в нелегитимный парламент. Об этом говорится в заявлении, принятом 22 февраля на Консультационном совете политических партий-участников переговоров. Сенсационный документ подписали все девять партий-участников переговорного процесса, включая либерал-демократов и коммунистов.**

Окончательно решение о подписании этого Заявления было принято после эмоциональной речи Лукашенко на совещании «Об основных направлениях деятельности власти по обеспечению парламентских выборов 2000 года на принципах международных стандартов», которое прошло в тот же день. Выступление Лукашенко было очень резким, на повышенных тонах, фактически он кричал на своих подчиненных – министра иностранных дел Латыпова и главу администрации президента Мясниковича.

Глава государства в приказном порядке распорядился с 1 марта начать диалог с «широкими слоями общественности». Лукашенко при этом подчеркнул, что эти переговоры не будут вестись с политической оппозицией. Переговоры, отметил президент, принято вести с равным партнером. По мнению Лукашенко, на самом деле оппозиции не нужен диалог: «Им надо показать, что у нас одиозная власть, которая всех обманывает». Лукашенко заявил, что в ходе диалога ему «будет противно сидеть за столом с теми, кто сейчас борется с собственным народом».

Этим заявлением Лукашенко фактически проигнорировал требования начать равноправный диалог с оппозицией, содержащиеся во всех международных документах и резолюциях, касающихся Беларуси, – Санкт-Петербургской декларации Парламентской ассамблеи ОБСЕ, в 22-ой статье Декларации стамбульской встречи глав государств и глав правительств стран-участников ОБСЕ и других.

В Заявление Консультативного совета политических партий, принятом в ответ на действия властей, говорится, что «односторонним отказом от согласованного механизма переговоров нынешняя власть перечеркивает все прежние договоренности, надежду белорусского народа и международного сообщества на разрешение конституционного кризиса». Представители крупнейших партий указывают также на недемократический характер принятого недавно Избирательного кодекса. ▶

*Окончание на стр.2*




### «Вы не устали говорить?»

Открытое письмо Анатолия Лебедько Александру Лукашенко, или 10 вопросов по существу

стр.3

### Вайнаназаўсёды...

Падзеі чачэнскай вайны у люстэрку расійскіх і еўрапейскіх СМІ

стар.6

### Женщина в тисках насилия

Семейные скандалы, избиения, изнасилования... Где искать женщине защиту?

стр.7

АЎКЦЫЁН

## Выратаваны гарнітур

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Місія АБСЕ купіла на аўкцыёне мэблю Васіля Старавойтава, якую ў яго канфіскавалі пасля суда, і падаравала яе былому гаспадару. Разам з мэбляй выратавана бібліятэка славутага старшыні, якую ён збіраў усё жыццё, а таксама музычны цэнтр, па якім сямідзесяціпяцігадовы былы вязень слухаў музыку і галасы «варожых» радыёстанцыяў. Падарункі абышліся «місіянерам» у 2.450 долараў і адзін рубель. Столькі каштавала перамога на аўкцыёне па продажы маёмасці Старавойтава, што быў праведзены днямі ў Кіраўскім раёне. На гэтым конкурсе канкурэнтамі з АБСЕ абышлі дыпламатаў з амбасады Нямеччыны, якія прапанавалі за старавойтаўскія крэслы і кнігі на адзін зайчык менш. Зразумела, гэта быў спектакль, на які еўрапейцам давялося пайсці, паколькі аўкцыён патрабуе ўдзелу не менш як двух канкурсантаў. Інакш лот быў бы падзелены і пайшоў з малатка па кавалках, на якія ўжо нацэліліся ахвочыя да «халявы» землякі Старавойтава. Яны дарэчы, частку мэблі былога старшыні «Рассвета» ўжо скупілі, але нічога былому ўладальніку, у адрозненне ад еўрапейцаў, не падаравалі. А навошта – пакарыстаўся і хопіць...

Васіль Старавойтаў, па звестках, падарункам АБСЕ вельмі задаволены. Ён бачыць у ім сведчанне таго, што ў Еўропе не вераць у тое, у што многія ў Беларусі з лёгкасцю паверылі. ■

# Тайны элітнага дома

## Адвакаты просяць адпусціць з мірам Андрэя Клімава і ягоных будаўнікоў

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Набліжаецца да завяршэння працэс над дэпутатам Вярхоўнага Савета, вядомым прадпрымальнікам Андрэем Клімавым, якога абвінавачваюць у вельмі тыповых для часоў барацьбы з апазіцыяй абвінавачваннях – у крадзяжы бюджэтных сродкаў, выманьванні крэдытаў і неліцэнзійнай дзейнасці.**

Да Клімава, як да «лакаматыва», прычэплена яшчэ восем «вагончыкаў» – разам з ім судзяць таксама ягонага намесніка, супрацоўнікаў фірмы рангам многа ніжэй і нават некалькі гарадскіх службоўцаў. За тое, што, маўляў, складалі фальшывыя паперы, каб паказаць выкананне работ, якіх не было, чым дапамаглі Клімаву скрасці з бюджэту Мінска тры мільярды рублёў па курсе 1995 года. Клімаў сябе вінаватым не прызнае, салідарная з ім і большыня абвінавачаных. Учора выступілі апошнія з 13-ці абаронцаў. Яны літаральна ў адзін голас заявілі, што справа раздзьмутая, каб было лягчэй расправіцца з вядомым апазіцыянерам і прадпрымальнікам. У прыватнасці, адвакаты заявілі пра наступнае.

**Абаронца Клімава Гары Паганяйла** мяркуе, што справа супраць дэпутата сфальсіфікаваная. Інакш і быць не магло, бо Клімаў быў спачатку арыштаваны, а ўжо потым, толькі праз дзесяць месяцаў, знайшліся факты, якія зараз фігуруюць у якасці доказаў віны прадпрымальніка (гаворка ідзе пра завышэньне аб'ёмаў выкарыстанай цэглы) Гэта, дарэчы, прызнавалі самі следчыя ў гутарках з адвакатамі. Праўда, у якасці падставы для арышту былі названыя незаконнае атрыманне крэдыту ды неліцэнзійная дзейнасць, аднак на судзе гэтыя абвінавачванні аказаліся такімі голымі, што нават пракурор Галіна Радкевіч ад іх прапанавала адмовіцца. Цяпер Гары Паганяйла лічыць, што таго ж вартыя і іншыя прэтэнзіі да Клімава. Галоўны козыр абаронцы – дамова паміж фірмай Клімава і гарвыканкамам на будаўніцтва дома. Гэтая дамова Клімавым не парушалася, кошт тарыс будоўлі не перавышаны, а калі ў бакоў ёсць прэтэнзіі, іх трэба вырашыць за сталом перамоваў ці ў гаспадарчым судзе, аднак ніяк не ў судзе крымінальным. «Абсурдна казаць, што Клімаў нешта скраў на будоўлі, якая яму належала і разлік за якую з заказчыкам яшчэ не адбыўся», – даводзіў суду абаронца. «Следства чамусьці не высветліла, хто каму і колькі вінны, толькі пасля чаго можна весці гутарку пра магчымыя страты»,– здзіўляўся адвакат і спасылаўся на тое, што спачатку меркавалася правесці комплексную экспертызу ўсёй будоўлі, але потым следчыя задаволіліся праверкай толькі тых пазіцыяў, якія былі патрэбныя для абвінавачвання. ▶

*Заканчэнне на стар.2*

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 880

# «Вы не устали говорить?»

## Открытое письмо Александру Лукашенко, или 10 вопросов по существу

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО,**
**заместитель Председателя Верховного Совета Беларуси**

*Александр Григорьевич, Вам не надоело воевать? Вы не устали говорить, но не делать, обещать, и не выполнять?* Возьмите тайм-аут. Прислушайтесь не к придворным, а к голосу не обременённых страхом оппонентов. Всмотритесь в происходящее не через тонированные стекла бронированного «Мерседеса», а из окна маршрутного автобуса в часы пик.



Всадник, не чувствующий под собой лошади, загоняет её насмерть. Правитель, не ощущающий времени и пространства, оставляет после себя кладбища, свалку и кровоточащую память.

Вы не собираетесь садиться ни за круглый, ни за квадратный стол с оппозицией. Признаться, и у нас нет желания бросаться к вам в объятия. Боль потерь и горечь утрат стоят между нами. Но обиды нет. За вами — власть, за нами — ответственность за Беларусь.

За кандидатов Объединённой гражданской партии на последних парламентских выборах в Верховный Совет проголосовало более одного миллиона граждан Беларуси. Знаем, Вы этого не хотели. Вы даже призывали людей не участвовать в выборах. Но они сделали свой выбор. Также как и мы. Ни один из 22 членов фракции «Гражданское действие» не пошёл в назначенную Вами палату. За принципиальность и честность мы заплатили высокую цену. При невыясненных обстоятельствах умер Г.Карпенко, брошены в тюрьму А.Климов и В.Кудинов, бесследно исчезли В.Гончар и Ю.Захаренко. Мы не просим любить ОГП, но мы требуем уважения к мнению и выбору миллиона граждан страны.

Вы полагаете, что вы смелый и сильный. Но в чём сила спрятавшегося, а смелость убегающего. Вы думаете, что народ Вас любит. Но не бывает любви со страхом в глазах и преклонения со сжатыми кулаками. *Если оппозиция так глупа и беспомощна, то почему вы боитесь предоставить ей прямой телеэфир, почему избегаете честного теледиспута?*

Вы подобно льву сражались с привилегиями коммунистических вождей в Верховном Совете. Но лично вы ни от чего не отказались. Наоборот, сотни миллионов долларов вложены в новые привилегии новой номенклатуры. Реконструированные резиденции, сауны, корты, дачи, бесчисленная охрана, бесконтрольные фонды и денежные потоки. Отказаться от излишеств не хватило смелости. Но при этом нашлось мужество, чтобы лишить законных льгот чернобыльцев, инвалидов и пенсионеров. Правители, которых никто не контролирует, ни парламент, ни общество, как правило, очень дорого обходятся казне и налогоплательщику. *Почему бы Вам не сократить на 50 процентов свою охрану, не отдать под оздоровление чернобыльских детей резиденцию «Дрозды», не вернуть в бюджет для пенсионеров средства, вырученные от продажи оружия? Почему бы Вам не сделать прозрачным свой бюджет и не отчитаться в расходовании народных средств перед общественной, независимой комиссией?*

Вы судите Чигиря, но почему тогда на свободе г-н Титенков, имеющий самое непосредственное отношение к сотням миллионов долларов, фактически похищенных из бюджета при помощи фонда Эссамбаева и «Торгэкспо». Почему Ваш генеральный прокурор не поинтересуется, куда уходят дорогостоящие товары, конфискованные на границе. *Почему в переполненных тюрьмах, следственных изоляторах томятся люди за мешок картофеля, за свои убеждения, а виновные в нищете миллионов людей, сопричастные к упадку и деградации страны, на свободе? На 10 миллионов населения Беларуси мы имеем порядка ста тысяч заключённых. Где такое ещё есть в Европе?*

Вы наделили себя правом решать за народ. Вы непрестанно твердите о едином государстве с Россией. Но только 5 процентов населения, согласно социологическим опросам, поддерживают предложение о вхождении Беларуси в состав Российской Федерации на правах субъекта. А другого «воссоединения» просто не может быть. Да, многие наши граждане действительно хотят иметь особые отношения с Россией, но это совсем не означает, что Вы можете приторговывать суверенитетом. *Что Вы хотите? Стать вторым Богданом Хмельницким? Чтобы Вашим именем назвали переулок в Москве?* В стране, где 20 процентов сторонников объединения и 26 процентов активных противников — это путь конфронтации и противостояния. Неужели пять лет борьбы за Кремль Вас так ничему и не научили? Вы растеряли всё, что у Вас было или могло быть — уважение, авторитет, славу и благодарную память потомков.

Есть и другое объяснение того, что вы неровно дышите в сторону Кремля. Это от беспомощности и политической несостоятельности. Россия содержит Вас, она в значительной степени оплачивает расходы на содержание убыточных колхозов, нерентабельных предприятий, репрессивного аппарата. Вы получаете российские энергоносители по ценам в полтора-два раза ниже, чем Эстония или Польша. Но при этом уровень жизни в Беларуси на 3-4 порядка ниже, чем в этих государствах. Это означает только одно, что созданная Вами система хозяйствования неэффективна. Вы волоком тащите страну в военные блоки, в объятия российских генералов. Вы периодически делитесь своей ностальгией по вывезенным ядерным боеголовкам. Но в Конституции республики чёрным по белому записано, что Беларусь нейтральное, безъядерное, внеблоковое государство. *Неужели Вам мало чернобыльской катастрофы, неужели Вас не тревожит, что по периметру наших границ ещё три атомных станции, подобных чернобыльской? Или Вам недостаточно 850 инвалидов и 711 «цинковых мальчиков», которых Беларусь получила из Афганистана?*

Ну что Вы за президент, если за почти шестилетний период Вашего нахождения на вершине власти к Вам приезжали руководители только двух государств из 40, которые являются членами Совета Европы. Как можно договариваться, торговать, сотрудничать, если большинство глав государств Вы знаете лишь по фотографиям и телепередачам. *Вас не приглашают. К Вам не спешат. И Вы в отместку хотите окружить Беларусь новой Белорусской стеной, наподобие некогда существовавшей Берлинской? Или Вы намереваетесь лишить заработка сотни тысяч людей, живущих за счёт челночной торговли с заграницей, отобрать у молодёжи перспективу и надежду? Вы жаждете самолично определять, кого можно выпускать за границу, а кого содержать под домашним арестом?*



Ваши экстравагантные выходки и заявления дорого обходятся Беларуси. Ваш вклад в нашу нищету, технологическое отставание, отсутствие инвестиций огромен — порядка 17 млрд. долларов. Это наше благосостояние, которого нас лишили, это наши зарплаты, пенсии, пособия.

*И собственно, кто Вы после 20 июля 1999 года? Легитимный президент?* Но так думаете Вы и 26,7% опрошенных (данные НИСЭПИ). Остальные либо не признают в Вас законного главу государства, либо правовая легитимность для них не имеет никакого значения.

За то, чтобы Вы руководили страной до 20 июля 1999 года, из 7,5 миллионов избирателей в 1994 году проголосовало 4,2 млн. человек (56,7%). Это общепризнанный факт. Однако других президентских выборов Беларусь не знает. Вы сами себя, по собственной воле, переизбрали ещё на два года.

Когда голос правителя приравнивают к голосу миллионов избирателей, значит, в дверь стучится тоталитарная система. На языке обывателя это синоним беды, горя, боли и слёз. Сначала она настигает одиночек, затем приходит в семьи, а рано или поздно это становится общенациональной трагедией. От неё нет индивидуальной защиты. Она одинаково опасна для борцов за вольную, богатую Беларусь и вчерашних опричников. Она поражает и равнодушных, и тех, кто намеревался переждать это сатанинское время за принципом «моя хата с края». *Или Вам этого хочется?* ■

**ЭКАНОМІКА**

**Павел ДАНЕЙКО**

# Смена премьера — смена курса...

## То, о чем так долго сплетничали, наконец произошло — премьер ушел в отставку

**Мы имели возможность наблюдать, казалось бы, бессмысленные смены премьеров Ельциным, и нужно усвоить полученный урок, такие политические фигуры не меняют без какой либо политической цели. Так почему же эта смена премьера произошла сейчас?**

Слухи о предполагаемой отставке Линга ходили уже пару лет. Называлось множество возможных преемников, среди которых был и Ермошин. Однако было наивно ожидать смены премьера раньше, чем осень 1999 — зима 2000 года. Все-таки смена премьера — это какая никакая смена политики. Политику правительства в нашей стране определяет один человек. В чем она состояла в последнее время?

Интеграция с Россией, вхождение в политическое поле России как одного из наиболее вероятных претендентов на высший пост — вот основная цель политики Лукашенко в последние годы. Основной задачей такой политики была работа на российского избирателя с целью создания образа антиельцин. Тот старый и больной, этот молодой, здоровый, спортивный. Тот развалил союз, этот собиратель земель славянских. Тот реформы проводит, а экономика падает, этот без всяких реформ навел порядок и обеспечил экономический рост.

Ради этого своего российского устремления Лукашенко положил экономику Беларуси. Для того, чтобы обеспечить рост без реформ, было почти уничтожено сельское хозяйство Беларуси, задушен частный сектор, обложены, через обязательную продажу валюты, непомерным налогом экспортеры, распуганы всевозможные зарубежные инвесторы. Только устремлением Лукашенко в Россию можно объяснить безумие множественности валютных курсов. Привести официальный курс в соответствие с рыночным курсом, после его обвала весной 1998 года, это было бы признанием краха всей своей политики. Валовой внутренний продукт Беларуси после девальвации станет меньше ВВП 1995 года (года начала экономического роста в Беларуси) как минимум на 10%. Весь карточный домик «экономического роста без реформ» развалился с позором. Это нанесло бы непоправимый удар по так старательно формировавшемуся образу потенциального участника президентских игр в России. Когда наконец стабилизируется валютный курс, мы увидим, какую долю ВВП наша страна потратила на политические игры. Я оцениваю эту сумму примерно в миллиард долларов.

Ожидать смену нашего премьера нужно было осенью 99 года, зимой 2000. Время, когда должно было Лукашенко стать понятным, что его в России не ждут и нужно менять политическую стратегию. Сделать такой поворот не легко. Десятки и сотни людей кормились и кормятся на обслуживании «российских» амбиций главного политика Беларуси, и эти люди всегда будут убеждать, что еще миллион, другой, инвестированный в «российский» проры, и все будет нормально.

Однако ситуация в России резко изменилась с приходом Путина. Ельцин методом перебора нашел преемника, которому может передать власть.

Путин не «черный» ящик. Он очень похож на Лукашенко. Похож умением говорить взаимоисключающие вещи в одной речи и при этом заставить электорат слышать только то, что каждый из них хочет слышать. Похож образом: молодой, спортивный, образованный. Правда, левые идеи в России проиграли. Идеология Путина: рыночная государственность, с хорошим привкусом империализма. Скорее всего будущее России при Путине будет напоминать Южную Корею: развитие рыночной экономики при мягком авторитаризме. Путин полностью попал созданным им политическим образом в ожидания большинства российского народа. Все это делает надежды Лукашенко на участие в политической жизни России нулевыми. Значит вся прежняя политическая стратегия становится бессмысленной. Ее нужно менять.

Смена премьера — это сигнал о смене политической стратегии. Но в каком направлении будет меняться эта политика?

Как мне кажется, возможны только два варианта.

Первый вариант — это попытка Лукашенко сохраниться как политическая фигура, остаться в истории как первый Президент независимой Беларуси. Эта стратегия предполагает определенную либерализацию экономики, без проведения системной экономической реформы. Возможны некие минимальные изменения в политической сфере, изменения декоративного характера, не посягающие на реальное всевластие Лукашенко. Во внешней политике приоритет России сохранится, однако будут разморожены отношения с Западом. Интеграционные процессы будут интенсивно топтаться на месте, с продвижением в военной области.

Второй путь: Лукашенко перестает быть политиком и работает над формированием своего выходного пособия. В этом случае интеграция с Россией пойдет семимильными шагами в направлении вхождения Беларуси в Российскую Федерацию. Произойдет экономическая либерализация по российскому образцу. Будет введен в оборот российский рубль. Пройдет приватизация с привлечением российских олигархов. Лукашенко останется в памяти как трагический курьез в длительной истории борьбы Беларуси за независимость.

И тот, и другой путь приведет к обострению социальной обстановки. Введение российского рубля вызовет шок и весь хвост типично российских проблем неплатежей. Внутренняя стабилизация белорусского рубля менее обострит социальную ситуацию, однако разобьет все иллюзорные экономические победы и вызовет обычный для финансовой стабилизации кризис для производителей.

Какая из стратегий будет избрана? Мы это поймем в течение ближайших трех месяцев.

Однако, очевидно, что Беларусь впервые после обретения независимости оказывается перед реальной угрозой ее утраты. И в любом случае предстоит еще один, четвертый за последнее время, экономический шок. Мы уже пережили три шока: 1991 год — изменение структуры цен, 1995 год — стабилизация белорусского рубля, 1998 год — обвал белорусского рубля. ■

# Вайна назаўсёды...

## Расія губляе мільёны долараў і тысячы чалавек – каб канчаткова расправіцца з непакорнай Чачнёй

**Пазаўчора чачэнцы адзначылі сумную дату ў сваёй гісторыі: 23 лютага 1944 года ўступіў у дзеянне сакрэтны план савецкага кіраўніцтва пад назвай «Сачавіца» («Чечевица»), згодна з якім усё чачэнскае насельніцтва было дэпартаванае ў Паўночны Казахстан. Па розных ацэнках, у выніку гэтай гвалтоўнай аперацыі ад трэці да паловы ўсіх чачэнцаў загінула.**
**Колькі чачэнцаў загінула ў выніку апошняй вайны на Каўказе, пакуль не ведае ніхто. Вайна працягваецца. Сталіца Джахар (Грозны) практычна ўшчэнт разбураная расійскімі войскамі, зачыненая для наведвання мірным насельніцтвам – і адчыніцца не раней за красавік.**

### Расійскіх генералаў – пад суд?

На пачатку гэтага тыдня стала вядома, што старшыня Камісіі ААН па правах чалавека Мэры Робінсан выказала меркаванне: расійскіх генералаў будуць пераследаваць і судзіць як ваенных злачынцаў – за «катаванні і гвалт», учыненыя падчас чачэнскай кампаніі. Пры гэтым яна нагадала пра лёс сербскіх, харвацкіх і баснійскіх ваенных злачынцаў, якіх Міжнародны ваенны трыбунал у Гаазе судзіць за крывавыя падзеі ў Босніі ў пачатку 90-х гадоў.

У адказ Расія абвясціла, што сп. Робінсан карыстаецца недакладнай інфармацыяй і ўвогуле з'яўляецца перакананай русафобкай – і таму няма ніякіх падставаў для яе візіту ў Чачню з гуманітарнай місіяй. Нагадаем, дарэчы, што да абрання старшынёй Камісіі ААН па правах чалавека Мэры Робінсан была прэзідэнтам Ірландыі.

### Чачэнская «пастка» для расійскіх крэдытаў

Непавага Расіі да сусветнага чыноўніка найвышэйшага рангу можа вельмі балюча адклікнуцца ёй – адмовай заходніх інвестараў укладаць грошы ў расійскую крызісную эканоміку, а фактычна – у чачэнскую бойню.

Ужо цяпер шмат якія аналітыкі – як з Захаду, так і з Усходу – перакананыя: Чачня будзе каштаваць Расіі мільёны долараў неатрыманых крэдытаў, пазыкаў, грантаў. Не апошнюю ролю ў гэтым, дарэчы, адыграе ўжо сусветна вядомая справа з «абменам» журналіста радыё «Свабода» Андрэя Бабіцкага. Бо заходнія інвестары гатовыя ўкладваць грошы ў краіны з стабільнай дэмакратычнай сістэмай – а Расія з кожным днём усё меней нагадвае такую краіну. У рэшце рэшт, у свеце ёсць яшчэ шмат краінаў, якія жадаюць карыстацца фінансавай дапамогай Захаду – і гатовыя выкарыстоўваць гэтыя сродкі мэтанакіравана.

### Лагер — расійская нацыянальная традыцыя

Расію, здаецца, такі паварот падзеяў не засмучае. Вайсковыя аперацыі працягваюцца, у «вызваленых ад тэрарыстаў» раёнах па-ранейшаму ідуць зачысткі. Мірнае насельніцтва прымусова накіроўваецца ў «фільтрацыйныя лагеры» на тэрыторыю суседняй Інгушэціі. Шмат хто, не хаваючыся, называе тыя лагеры «канцэнтрацыйнымі». Нядаўна міжнародная праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch апублікавала паказанні трох чачэнцаў, якім цудам давялося пакінуць адзін з такіх лагераў у пасёлку Чарнакозава непадалёк ад Грознага.

Вось што распавёў адзін 21-гадовы чачэнец, які пажадаў застацца вядомым пад імем Іса: «Да таго, як мяне ўдарылі малатком, я лічыў, што няма нічога горш за дубінку. Але потым я зразумеў, што дубінка — гэта нішто ў параўнанні з малатком». Іса быў арыштаваны ў Грозным 21 студзеня і адпраўлены ў Чарнакозава. А вось што ён расказвае пра парадкі ў гэтым фільтрацыйным лагеры: «15-20 чалавек з дубінкамі выстройваліся ў дзве шарэнгі... Кожны з іх мяне біў, калі я прабягаў па калідоры... Яны нас прымусілі распрануцца... На працягу тыдня я знаходзіўся ў камеры практычна без вопраткі».

Два іншыя чачэнцы, якія пакінулі расійскі фільтрацыйны лагер разам з Ісой, — дзякуючы хабару, што быў перададзены за іх вызваленне прадстаўнікам расійскіх войскаў, — распавядаюць практычна тое самае, што і Іса: іх збівалі і прыніжалі падчас допытаў.

Чачэнскае інфармацыйнае агенцтва «Каўказ-Цэнтр» на сваёй інтэрнет-старонцы www.kavkaz.org паведаміла, што Генеральная пракуратура Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя ўзбудзіла крымінальныя справы супраць 22 асобаў у найвышэйшым эшалоне ўлады Расіі, а таксама супраць расійскіх генералаў – «герояў чачэнскай кампаніі». Гэта в.а. прэзідэнта Расіі У.Пуцін, міністр унутраных справаў У.Рушайла, начальнік ФСБ М.Патрушаў, міністр абароны І.Сяргееў, генералы У.Шаманаў, В. Казанцаў, Г.Трошаў, камандзір прарасійскіх чачэнскіх вайсковых фарміраванняў Р.Гантаміраў.

Гэты ж сайт сцвярджае, што, паводле інфармацыі чачэнскага ўрада, у лагеры Чарнакозава закатавана і расстраляна 1.700 чалавек, у тым ліку 60 дзяцей 10-13-гадовага ўзросту. Невядома, праўда, як гэтая інфармацыя патрапіла ўладальніку сайта – амерыканскаму бізнесмену і этнічнаму чачэнцу.


Фота AP

### Грозны на замку

Цікавай інфармацыяй наконт таго, чаму чачэнская сталіца Грозны была аб'яўленая закрытай тэрыторыяй, дзеліцца расійскі інтэрнет-аглядальнік Уладзімір Воранаў. Ён прапаноўвае адразу некалькі версіяў. Паводле першай з іх, камандаванне аб'яднанай групоўкі «федэралаў» вельмі заклапочанае станам сваіх толькі сімвалічна абароненых тылавых камунікацыяў і баіцца нападу чачэнскіх байцоў з тылу. Паводле другой – генералы імкнуцца як мага хутчэй падарваць шэраг кварталаў Грознага, каб надзейна схаваць сляды сваіх злачынстваў. Ужо ні для каго не сакрэт, што расійскія салдаты падчас сваіх зачыстак вынішчалі не толькі «баевікоў» – але практычна кожнага гараджаніна, які па тых ці іншых матывах не пакінуў Грозны. Напрыклад, у адпаведнасці з расійскімі суперсучаснымі тэхналогіямі «зачысткі», каб «навесці парадак» у любым грозненскім падвале, дзе да апошняга працягвалі хавацца і мірныя грамадзяне, дастаткова кінуць туды гранату. Пасля гэтага смела можна лічыць, што тэрарыстаў больш няма, а канстытуцыйны парадак у адным асобна ўзятым расійскім падвале на тэрыторыі Чачні адноўлены. Але ж у такім выпадку ў падвале застаюцца парэшткі забітых. А вось калі надзейна засыпаць гэты падвал, падарваўшы гэты дом, то ніякіх слядоў не застанецца.

Яшчэ адна версія: «федэралы» не жадаюць дэманстраваць усяму свету нізкую якасць расійскай зброі. Калі па расійскім тэлебачанні паказваюць разгромлены Грозны, то бачна, што вуліцы заваленыя тысячамі мін і бомбаў, якія не выбухнулі. Толькі афіцыйныя крыніцы паведамілі: за некалькі дзён сапёры абследавалі 20% тэрыторыі Грознага (які, дарэчы, займае плошчу ў 110 кв. км) і абясшкодзілі 18 тысяч «не спрацаваўшых» боепрыпасаў. Такім чынам, просты матэматычны разлік паказвае што сярод руінаў чачэнскай сталіцы ляжыць не менш за 90-100 тысяч «дэфектных» бомбаў, мінаў, снарадаў. Гэты факт безумоўна дэманструе нізкую якасць расійскай зброі – і можа падарваць давер да яе на сусветных рынках, дзе Расія з'яўляецца далёка не апошнім экспарцёрам.

Аднак, адзін ананімны расійскі афіцэр па-іншаму тлумачыць гэтую з'яву: «На нашых складах накапіўся вялікі запас артылерыйскіх снарадаў, ракетаў, мінамётных мінаў і г.д., якія былі выпушчаныя яшчэ ў 50-60-я гады. Іх неабходна тэрмінова ўтылізаваць – а грошай на гэта няма. Вось і кідаем іх тысячамі на Чачню». Як сцвярджае гэты афіцэр, на Чачню нават скідваліся глыбінныя бомбы часоў Другой сусветнай вайны, разлічаныя на знішчэнне падводных лодак.

Такім чынам, чачэнская вайна працягваецца, а на вайне, як вядома, няма ні правых, ні вінаватых. Кожны дзень прыносіць новыя зводкі – колькі яшчэ чалавек Расія ахвяравала на алтар сваёй тэрытарыяльнай цэласнасці. Людзей у Расіі ніколі не шкадавалі: мільён туды, мільён сюды – усё роўна лічба будзе вагацца вакол 150 мільёнаў. Калі прыплюсаваць яшчэ 10 беларускіх мільёнаў – усяго будзе 160. Больш чым дастаткова, каб распачынаць новыя вайсковыя аперацыі ў любым кутку свету.

**Паводле матэрыялаў замежнага друку і інтэрнет-выданняў падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## ВОСКРЕСЕНЬЕ • 5 МАРТА

**7.00** Доброе утро, Беларусь!
**8.00** Мультсериал для детей. «Приключение в королевстве».
**8.25** Телебарометр.
**8.40** Потребительская корзина.
**9.00** Новости.
**9.10** Мультиклуб.
**9.40** Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых.
**10.05** «Все нормально, мама!» Развлекательная программа.
**10.40** АРТ-клуб. Памяти Е.Шипилы.
**11.15** Арсенал. Программа об армии.
**11.40** Марсово поле. Музыкально-развлекательная программа.
**12.00** Международные спортивные новости.
**12.15** Сделано в Беларуси. «Дом паркета».
**12.30** Лучшие актеры 1999 года. Часть 3-я.
**13.15** **«Театральные истории»**. Короткометражный худ.фильм.
**14.00** Сельчане. Ко Дню женщин.
**14.25** «Золотые ключи». Телефестиваль народного творчества.
**15.00** Новости.
**15.10** Семейный телеканал «На волне взаимопонимания».
**15.55** Мультфильмы.
**16.15** Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады.
**16.50** **«Огарева, 6»**. Худ.фильм.
**18.15** Теленавигатор.
**18.40** «Кофе с ароматом женщины». Телесериал (Колумбия).
**19.20** Премьера песни.
**19.30** Стадион.
**20.00** Резонанс.
**20.50** Ток-шоу «Карамболь» с участием группы «Эйфель 65».
**21.20** Л.Гузеева и Н.Михалков в мелодраме **«Жестокий романс»**. 1-я и 2-я серии.
**23.40** Авто-парк.
**23.50** Акколада. Музыкально-развлекательная программа.

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости.
**7.10** Армейский магазин.
**7.40** «Дисней-клуб». «Гуфи и его команда».
**8.10** Утренняя звезда.
**9.10** «Непутевые заметки» Дм.Крылова.
**9.30** Пока все дома.
**10.00** Семейная комедия «Альф».
**10.30** Здоровье.
**11.00** Дневной киносеанс. Евгений Леонов, Савелий Крамаров в фильме **«Настя»**.
**13.05** Клуб путешественников.
**13.45** История одного шедевра. Русский музей.
**14.10** Приключенческий сериал «Горец». «Правосудие».
**15.00** Умницы и умники.
**15.25** «Дисней-клуб». «101 далматинец».
**15.50** «Дисней-клуб». «Новые приключения Винни-Пуха».
**16.20** Как это было. Дело председателей-«миллионеров». 1972 год.
**17.15** «Ералаш».
**17.25** Смехопанорама.
**18.00** Мировое кино. Боевик **«Помеченный смертью»**.
**19.45** Комедия Л.Гайдая **«Пес Барбос и необычный кросс»**.
**20.00** Время. Воскресный выпуск.
**21.00** Ален Делон и Лино Вентура в фильме **«Искатели приключений»**.
**22.55** «Чайф». 15 лет. «Все только начинается».

РТР

**7.00** Служу Отечеству!
**7.25** Папа, мама, я - спортивная семья.
**8.20** «Устами младенца». Телеигра.
**8.50** Прогноз погоды.
**8.55** Доброе утро, страна.
**9.30** «Аншлаг» и К_.
**10.30** «Городок». Из раннего». Развлекательная программа.
**11.00** Русское лото.
**11.40** Мультфильмы.
**12.00** Вести.
**12.20** Парламентский час.
**13.10** Новая «Старая квартира».
**14.05** Диалоги о животных.
**15.05** Премьера документального сериала «Тайны тысячелетия» с Арменом Джигарханяном.
**16.00** Пресс-клуб.
**17.00** Перед «Зеркалом».
**17.10** Премьера на РТР. Адриано Челентано и Элеонора Джорджи в комедии Кастеллано и Пиполо **«Бархатные ручки»** (Италия).
**19.00** Зеркало.
**20.00** Игорь Крутой. Друзья и песни.
**0.05** Реальное кино. Программа на тему «Таинство брака».
**0.35** Реальное кино. «Полина». Док. фильм.

**9.05** «Читая Библию». Новый Завет.
**9.15** «Аистенок». Тележурнал для детей.
**9.40** Детский сеанс. **«Панна с мокрой головой»**. Худ. фильм.
**11.15** «Консилиум». Научно-популярная программа на медицинские темы.
**11.40** Экспедиция «Чиж».
**12.10** «Пес в сапогах». Мультфильм.
**12.30** А.Ахматова. «Комаровские наброски».
**12.45** «Музыка жизни».
**13.15** Дворцовые тайны.
**13.30, 21.00** Новости культуры.
**13.45** Кино по выходным. **«Ловушка в старом доме»**. Худ. фильм. 2-я серия.
**14.40** Кинопанорама. Встречи.
**15.05** Отечество и судьбы. «Династия Орбели». Часть 2-я.
**15.35** Положение вещей.
**16.00** Мультфильм.
**16.25** «Жизнь после смерти». Док. фильм. 2-я серия.
**17.30** Новости.
**17.35** I Европейский фестиваль современного танца.
**18.25** Вечерняя сказка.
**18.35** I Европейский фестиваль современного танца.
**19.30** «С потолка».
**20.00** Баскетбол. Северо-Европейская лига ЦСКА - Лиетувос Ритас (Вильнюс).
**21.20** Сати Спивакова. Мои истории.
**21.45** **«За облаками»**. Худ. фильм.

НТВ

**6.55** Анонс дня.
**7.00, 9.00, 11.00, 15.00** Сегодня.
**7.15** Сериал «Улицы разбитых фонарей -II». «Любовный напиток».
**8.10** Телеигра «О, счастливчик!»
**9.15** Телеигра «Ключи от форта Байяр» (Франция).
**11.30** Служба спасения.
**12.00** Путешествия натуралиста.
**12.30** «Полундра». Семейная игра.
**13.00** «Женский взгляд» Оксаны Пушкиной.
**13.30** «Криминальная Россия». «Заложники черного золота». 2-я серия.
**14.00** «Третий тайм».
**15.30** Большие родители.
**16.05** Док. сериал «Холодная война».
**16.55** Сериал по выходным «Она написала убийство» (США).
**18.00** Итоги.
**19.35** Куклы.
**19.50** Сериал «Улицы разбитых фонарей -II». «Сердечная недостаточность».
**20.50** «Итого» с В.Шендеровичем.
**21.10** Мир кино. Брюс Уиллис и Милла Йовович в боевике **«Пятый элемент»** (Франция - США).
**23.30** Последний киносеанс. Бо Бриджес в фильме **«Без предупреждения. История Джеймса Бреди»** (США).

TV6 МОСКВА

**6.00** Кинотеатр ТВ-6. Боевик **«Торговец смертью»**.
**7.40** Дорожный патруль .
**7.55** Сериал «Приключения Шерлока Холмса». «Пляшущие человечки».
**8.50** «Ле-go-go» с Ильей Легостаевым».
**9.25** «Star Старт».
**9.55** Шоу «Амба - ТВ».
**10.25** Сериал «Мистер Бин». «Мистер Бин в комнате 426».
**10.55** «Шоу Бенни Хилла».
**11.30** «Телемагазин в Минске»
**11.40** Канон .
**12.05** Дорожный патруль.
**12.25** Кинотеатр ТВ-6.Владимир Меньшов в фильме **«Время для размышлений»**.
**13.40** Кинескоп.
**14.45** «Формула здоровья».
**14.55** «Вы очевидец» с И. Усачевым.
**15.50** «О. С. П. - студия».
**16.45** Катастрофы недели.
**17.40** Дорожный патруль.
**18.00** Сериал «Приключения Шерлока Холмса». «Горбун».
**19.00** Кинотеатр ТВ- 6. Е.Яковлева в фильме **«Интердевочка»**.
**21.45** Ваша музыка.
**22.45** Эротический сериал «Дневники красной туфельки».

СКАНДАЛ

# Лікёрны перадзел

## Магілёў вызначыўся новым ажыятажным скандалам з удзелам уладаў і праваахоўных структураў

Вера КМІЦІЧ

**Нельга сказаць, што адкрыты ліст старшыні Клімавіцкага райвыканкама Уладзіміра Канавалава, які быў надрукаваны ў раённай газеце, стаў шокавым адкрыццём для грамадства. Калі раней усе былі ўпэўненыя, што праваахоўныя органы, улады і крыміналітэт цесна звязаныя і працуюць на ўзаемакарысных умовах, дык зараз пра гэта было заяўлена адкрыта.**

У сваім лісце Ул.Канавалаў заяўляе пра вядомыя яму факты карупцыі, буйных махінацыяў і злоўжыванняў службовым становішчам дзеля перадзелу на Клімаўшчыне сфераў эканамічнага ўплыву.

Галоўны аб'ект нездаровага інтарэсу – Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод (ЛГЗ). Цытата з ліста Ул.Канавалава: *«Нельга больш цярпець пагрозы, ананімныя тэлефанаванні і кляўзы, якія зыходзяць ад уплывовых асобаў раёна, з якімі я не пагадзіўся дзяліць «брудныя грошы», нажытыя шляхам спекулятыўных здзелак і махінацыяў... Я свядома разумею, што гэта публікацыя можа каштаваць мне жыцця».*

Магілёўская абласная пракуратура адрэагавала неадкладна і ўпаўне прадказальна. У Клімавічы тэрмінова выехаў намеснік пракурора вобласці Франц Вайцяховіч, які затым у інтэрв'ю магілёўскаму абласному тэлебачанню не вельмі ўпэўнена расказаў, што некаторыя факты пацвярджаюцца, але, у прынцыпе, «усё па закону», і паабяцаў, што следства будзе працягвацца. Пракурор жа вобласці Анатоль Дудкін увесь тыдзень знаходзіўся ў недасягальнасці для журналістаў, і якіх-небудзь каментарыяў ад яго атрымаць не ўдалося.

Самога Ул.Канавалава гэтая заява не суцешыла. 9 лютага, ужо у Магілёве, ён дае інтэрв'ю, у якім гаворыць аб поўным недаверы мясцовым уладам і аб тым, што абнародавана ўсяго толькі невялікая колькасць вядомай яму інфармацыі, астатняе ж ён «выкладзе» толькі прадстаўнікам цэнтра. Гаворыць Канавалаў і пра тое, што ў яго ёсць неабвяргальныя доказы па кожным з прыведзеных у артыкуле фактах.

Працягваю цытаваць газетны ліст Ул.Канавалава: *«Чаму супрацоўнікі РАУС пачалі ганенні на старшыню райпо Чарняцова? Перакрыў ён некаторым асобам гандаль «левай» гарэлкай... А хто суправаджаў вываз мяса (свініны) праз пост в Макеевічы ў Расію? Чаму гэтыя супрацоўнікі міліцыі не панеслі пакаранне? Як яны могуць працаваць надалей? Безумоўна, у іх ёсць апякун! Такога беззаконня, нахабнасці, хлусні я не магу цярпець! Асабіста па маім выкліку, калі ў другі раз на свінакомплексе «Сасноўка» камерсанты загружалі свініну на вываз з рэспублікі, не прыбыў ніводзін супрацоўнік РАУС. Машына беспрашкодна пайшла ў Расію... ЛГЗ — «дзяржава»-загадка. Чаму касір з ЛГЗ дазваляе сабе крычаць на намесніка старшыні райвыканкама і камандаваць яго дзеяннямі? Толькі таму, што яна сястра кіраўніка завода. Па якім праве дырэкцыя завода бярэ на працу намесніка дырэктара знешнеэканамічных сувязяў Шалыгіна М., калі той з'яўляецца заснавальнікам камерцыйнай фірмы «Шапры» і яе кіраўніком?»*

Па словах Канавалава, М.Шалыгін у канцы мінулага года купляў мазут у камерцыйных фірмах па 80 млн. рублёў за тону, у той час як дзяржаўная цана мазуту складала 20—23 млн. рублёў за тону. І гэтак далей. Спіс прэтэнзіяў старшыні райвыканкама да міліцыі, ДАІ і проста «заможных і ўплывовых людзей раёна» вялікі.

Аднак перш за ўсё факты, якія, па меркаванні Канавалава, гавораць пра злучэнне праваахоўнай сістэмы з арганізаванай злачыннасцю, датычаць Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода і падпольных бровараў па разліве гарэлкі, існуючых вакол яго. У раёне міліцыя выкрыла шэсць такіх кропак. Але да крымінальнай адказнасці быў прыцягнуты толькі адзін арганізатар (справа Буцькова), астатнія ж дасюль на свабодзе і, па чутках, працягнулі свой бізнес. Расследаванне ж па гэтай справе прывяло на Касцюковіцкі спіртзавод, сыравіна з якога паступала падпольным вытворцам гарэлкі, і ўслед за гэтым неадкладна было спыненае.

З вуснаў Ул.Канавалава прагучала таксама заява аб тым, што калі расследаваць выкрытыя ім факты, то можна будзе адшукаць заказчыкаў забойства старшыні Камітэта дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага.

Відавочна адно – скандальную клімавіцкую справу нельга выдаваць за антыпрэзідэнцкія настроі яе галоўнага «сігнальшчыка». Агульную палітыку дзяржавы Уладзімір Канавалаў поўнасцю падтрымлівае. Гэтаму прысвечаны некалькі найбольш эмацыянальных выказванняў з яго ліста. Гэта значыць, што палітычнага скандалу ўвогуле і няма. Факты, якія ў любой краіне з дэмакратычнымі пачаткамі маглі б прывесці як мінімум да змены ўрада, у нас трактуюцца як унутраныя разборкі, па наіўнасці чыноўніка вынесеныя, як смецце з хаты. Пацвярджае гэта і пазіцыя Магілёўскага аблвыканкама, агучаная на днях яго старшынёй Міхаілам Дражыным, які гаварыў аб тым, што, відавочна, шматлікія факты павыскубаныя і перабольшаныя. Народнага абурэння не паследавала. Ды і на гэта не варта было спадзявацца...




Фота Ул.ШЛАПАКА

На кіслых тварах удзельнікаў разборак ужо цяпер відаць, што расследаванне, калі яно і будзе на выгляд сур'ёзным, завершыцца нічым. Некалькі крымінальных справаў, што заведзеныя на «мелких сошек», перасадзяць пару чыноўнікаў зверху на больш нізкія крэслы, ну, можа быць яшчэ, гнеўная тырада А.Р.Лукашэнкі, з якой народ зразумее тое, што «царь хороший – бояре плохие», — вось і ўсё. Таму што немагчыма ўявіць, каб бюджэтастваральныя прадпрыемствы абласнога маштабу, такія, як Клімавіцкі ЛГЗ, жорсткім чынам не кантраляваліся вертыкаллю і не працавалі на яе ж. Нябожчык Яўген Мікалуцкі ўжо, здаецца, разлічыўся за гэта жыццём. І калі Канавалаў таксама ведае нешта таемнае, то яго жыццю сапраўды пагражае небяспека. Вырашаць, што з ім рабіць, будуць, вядома, не ў раёне.

Адзіная рэальная мера, якая, магчыма, сапраўды будзе прадпрынятая, — гэта змена дырэктара Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода. Абласное кіраўніцтва сцвярджае, што гэта будзе зроблена ў бліжэйшы час, хаця імя новай кандыдатуры не называецца.

Свядомай часткі грамадства можна было б наладзіць таталізатар са стаўкамі на тэму аб асабістым лёсе Канавалава і магчымай чарговай кампаніі барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, што азначае замаскіраваныя пад такі выгляд рэпрэсіі. ■

СОЦЫУМ

# Женщина в тисках насилия

Наталья РАДИНА

**Сегодня не редкость, когда женщина жалуется на пьющего мужа, «вечные» семейные скандалы и избиения. Постоянно терпя как физическое, так и психологическое насилие, женщина предпочитает молчать. Создается порочный круг: мало кто из женщин заявляет о насилии, соответственно возбуждается мало уголовных дел против насильников. А масштабы насилия растут.**

В Беларуси случаи насилия в семье официальная статистика, к сожалению, не выделяет в отдельную статью. Но, к примеру, российская статистика свидетельствует: ежегодно от рук собственных мужей погибает около 15 тысяч женщин. А каждая четвертая российская женщина хоть однажды, но была изнасилована или избита мужчиной. Чувство страха за своих дочерей, близких, за себя усилилось и среди белорусских женщин, они видят, что в обществе приветствуется культ силы и равнодушие к ее проявлениям, если они не приобретают кровавую форму.

Воспрепятствовать насилию женщине очень трудно по многим причинам. Первая из них — правовая. В законодательстве РБ акцент на домашнее «тихое» насилие не делается. Ответственность перед законом у нас наступает лишь за откровенное насилие над женщиной — изнасилование, истязание, убийство, нанесение телесных повреждений. То есть, если муж избивает жену «умеючи», без видимых ссадин и «синяков», то женщина не может обратиться в милицию, поскольку не имеет явных доказательств. В случаях же, когда женщина сталкивается с проблемой психологического насилия (оскорбления, пьяные скандалы), мужчина вообще практически ненаказуем. Хотя, как правило, любой конфликт развивается по определенной схеме — физическому насилию предшествует психологическое. И на этом существенном этапе женщина лишена возможности привлечь виновника к ответственности. Не встречая сопротивления, зная правовую необеспеченность, определенный тип мужчин легко переходит к грубому физическому и сексуальному насилию.



Как правило, фактами домашнего насилия занимаются участковые милиционеры. Для милиции семейные конфликты — широко распространенная причина вызова. Однако, опять же милиция не должна вмешиваться в «семейные дела», за исключением крайностей — тяжких телесных повреждений или убийства. Если же женщина, не выдерживая бессонных ночей, когда муж-алкоголик издевается над ней и детьми, вызывает милицию, то последняя в свою очередь может лишь «припугнуть» дебошира, и на этом дело прекращается.

Однако, в подобных случаях неабходимо не ограничиваться предупреждениями и административными штрафами, а возбуждать уголовное дело по статье 11 УК РБ (истязание) против лиц, неоднократно совершающих противоправные действия в отношении женщины.

Правда, причина непривлечения многих истязателей к уголовной ответственности кроется еще и в том, что бывают ситуации, когда, стремясь сохранить семью, женщины прощают своего обидчика и даже встают(!) на его защиту перед правоохранительными органами. Собственно, это вторая причина безнаказанности семейного насилия — психология самой потерпевшей женщины. Большинство женщин из страха потерять хоть какого кормильца или лишить детей отца, добровольно соглашается на подобные «условия» брака. Многих женщин пугает раздел давшихся «кровью и потом» квартиры и имущества. Разумеется, большую роль играет и наша традиция — не выносить сор из избы, ложный стыд выставлять напоказ свои семейные проблемы.

Но все-таки, как в такой ситуации белорусской женщине избежать насилия? Как доказать мужчине, что «сильным полом» он зовется не потому что, ему хватает сил избить женщину, а потому, что он может и обязан защищать «слабый пол»?

Понятно, что при таких условиях нашей женщине даже в голову не придет подавать в суд на сексуальные домагательства, как то практикуется в Америке. Ей остается лишь терпеть «хлопки» по ягодицам от наглых сослуживцев или людей «с улицы». Одна моя знакомая недавно пришла ошарашенная тем, что некий мужчина на вокзале хамски «прижал» ее к стенке с вопросом: «Сколько возьмешь за ночь?»

В следующий раз, при отсутствии свидетелей, этот или подобный мужчина не будет спрашивать «сколько», а возьмет силой и бесплатно. Ведь его никто не остановил, да и как это сделать...

Все же в Минске есть место, куда может обратиться доведенная до отчаяния женщина. Год назад белорусским Союзом женщин был создан реабилитационный кризисный центр для пострадавших женщин. Его задача — помочь женщине в тот кризисный момент, когда она сама уже не в силах справиться с бедами, исчерпала все силы и терпение. В центре женщина может получить психологическую и юридическую поддержку. Большинство посетительниц центра страдает от бытового насилия, часть — одинокие или разведенные женщины. В том случае, если женщина приходит избитая, с заметными следами побоев, ей предлагают помощь юриста, который направляет женщину в милицию, на судмедэкспертизу и оказывает ей поддержку рекомендательного характера. Два психолога и психоаналитик помогают женщине без паники пережить случившееся.

Центр также располагает приютом для женщин, которым необходимо где-то укрыться, успокоиться, пережить очередной скандал или рукоприкладство пьяного мужа. Приют представляет собой две спальни, довольно уютные, без той убогости, с которой обыкновенно ассоциируется слово «приют». Срок пребывания в приюте под наблюдением психологов максимум 10 дней. Проживание бесплатное и конфиденциальное. Женщине необходимо иметь при себе только деньги для оплаты питания.

В центре есть **телефон доверия**, по которому женщина может рассказать о своих проблемах или записаться на прием к психологу, — **215-53-98**.

Психологическая и юридическая поддержка осуществляется бесплатно. В центре работают психологи женского негосударственного института «Энвила» и юристы Европейского гуманитарного университета. ■

